*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА


Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) | № 1 (213) | 4 студзеня 1995 г. | Кошт — 100 рублёў


## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **ПЕРАД НАВАГОДНІМІ СВЯТАМІ ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПРЫНЯЎ РАШЭННЕ ПРАВЕСЦІ ВЫБАРЫ Ў ПАРЛАМЕНТ 14 ТРАЎНЯ 1995 ГОДА.** Апазіцыя прапаноўвала прызначыць выбары на 26 сакавіка, але іх прапанова не была падтрымана. Дэпутаты затрымаюцца ў сваіх крэслах на два месяцы і дзесяць дзён даўжэй, чым належыць: новы парламент зможа правесці першае пасяджэнне не раней, чым у канцы ліпеня.

○ ***АПОШНІЯ ДЗЕСЯЦЬ ДЗЁН 1994 ГОДА ДЛЯ БЕЛАРУСІ БЫЛІ ПАЛІТЫЧНА НАСЫЧАНЫМІ.*** *Гэта шэраг адставак у камандзе Прэзідэнта, гэта белыя палосы рэспубліканскіх газет. І гэта ўсё з – за даклада на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутата Сяргея Антончыка. Чым скончацца падзеі? Адказ на гэта пытанне хвалюе сёння кожнага чалавека. Тым больш, што з прыходам Новага года старыя праблемы застаюцца.*

○ **У МЕНСКУ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЎСЯ «КРУГЛЫ СТОЛ» ПА ПРАБЛЕМАХ СТВАРЭННЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ШКОЛЫ**, які арганізавала і правяла гарадская Рада ТБМ імя Ф.Скарыны сумесна з Гарадскім упраўленнем народнай адукацыі. На пасяджэнні прысутнічала каля двухсот чалавек. Матэрыялы з «круглага стала» будуць змешчаны ў «Нашым слове» ў бліжэйшым нумары.

○ ***У СУВЯЗІ З КАЛЯДНЫМІ І НАВАГОДНІМІ СВЯТАМІ ДЛЯ ГРАМАДЗЯН НАШАЙ КРАІНЫ І АСОБ БЕЗ ГРАМАДЗЯНСТВА***, *якія пастаянна жывуць у ёй, уведзены бязвізавы ўезд у Літву на пэўныя дні. Так, можна было з'ездзіць у Літву без візы з 24 па 26 снежня, з 30 снежня па 2 студзеня. Ёсць магчымасць гэта зрабіць і з 6 па 8 студзеня.*

○ **ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА ПЛАНУЕ** ў гэтым месяцы правесці «круглы стол» з прадстаўнікамі дзеючых у краіне палітычных партый і рухаў.

○ ***ПРЭЗІДЭНТ БЕЛАРУСІ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРЭЎСЯ З ПРАДСТАЎНІКАМІ МАЛАДЗЁЖНЫХ АРГАНІЗАЦЫЙ І СТУДЭН Ц ТВА.*** *Гаворачы аб маладзёжнай палітыцы, спадар Лукашэнка выказаўся за распрацоўку шырокамаштабнай доўгатэрміновай праграмы на 1995—2000 гады. Выказваючыся пра апошнія падзеі ў нашай краіне, Прэзідэнт сказаў: «Будзьце ўпэўнены, парадак у краіне я навяду».*

**ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ «НАШАГА СЛОВА»!** Калі вы па нейкіх прычынах у час падпісной кампаніі не змаглі падпісацца на «НС», то гэта зрабіць не позна і цяпер. На «Наша слова» можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі на адзін месяц: 175 рублёў; на тры: 525 рублёў; на пяць месяцаў: 875 рублёў. Індэкс 63865.

*Хай Новы год багатым будзе*
*На ўсмешкі, дабрыні цяпло.*
*Хай нашым вольным, працавітым людзям*
*Праменіць шчасце, радасці святло!*

**АКАДЭМІК РАДЗІМ ГАРЭЦКІ: «ЗА АБРАЗУ БЕЛАРУСІ ТРЭБА КАРАЦЬ».**
Стар. 2—3.

**ГРАФ НЕ ЗБІРАЕЦЦА КІДАЦЬ СВАІХ РАНЕЙШЫХ НАМЕРАЎ ПАСПЯХОВА ЎПІСАЦЦА Ў СУЧАСНАЕ ПАЛІТЫЧНАЕ ЖЫЦЦЁ СВАЁЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ.**
Стар. 4.

## Доктар эканамічных навук Самвел КУРЭГЯН: Дзяржаўнай павінна быць адна мова

У штотыднёвіку «7 дзён» № 49 змешчана гутарка з дырэктарам падтрымкі прадпрымальніцтва «Адраджэнне і развіццё», доктарам эканамічных навук Самвелам Курэгянам, які на пытанне «Як Вы адносіцеся да прапаноў, каб у якасці дзяржаўнай выкарыстоўваць дзве мовы — беларускую і рускую?» адказаў: «Я думаю, не варта гаварыць пра тое, якое вялікае значэнне мае мова для любога народа, што гэта элемент самасвядомасці і г.д. і т.п. Але факт, што ні адна нацыянальная мова не была так загнана, зведзена амаль што ў нябыт за гады бюракратычнай улады, як беларуская. Я лічу, што ў Беларусі дзяржаўнай мовай павінна быць беларуская мова і толькі беларуская. На працягу многіх дзесяцігоддзяў шырока выкарыстоўвалася руская мова, уся матэрыяльна-тэхнічная база была падладжана пад яе, больш таго, матэрыяльна стымулявалася выкарыстанне рускай мовы. Гэтае пытанне я вывучаў спецыяльна. У выніку грамадства стала непадрыхтаваным да выкарыстання беларускай мовы ў якасці адзінай дзяржаўнай. Магчыма, на пера-ходны перыяд, на працягу якога павінны быць зроблены матэрыяль-ныя і духоўныя падставы для рэальнага пераходу на беларускую мову як дзяржаўную, можна выкарыстоўваць дзве мовы — беларускую і рускую, але прыярытэт павінен аддавацца беларускай. Трэба ўлічваць гістарычныя перадумовы, якія склаліся ў Беларусі, абстрагіраванне ад іх было б «дурным» адцягненнем увагі. Але дзяржава павінна няўхільна і паслядоўна праводзіць мэтанакіраваную палітыку, накіраваную на паступовае, калі можна так сказаць, выцясненне рускай мовы з дзяржаўных і іншых структур па меры стварэння ўмоў яе замены беларускай. Беларуская мова абавязана панаваць. Без мовы — няма народа». Вось вам і рускамоўны доктар эканамічных навук!

**Н.К.**

## МАНАШКА З ПОЛЬШЧЫ РАЗМАЎЛЯЕ ПА-БЕЛАРУСКУ

Цяжкае становішча ў эканамічным жыцці краіны, заклапочаныя твары людзей, падманутых авантурамі палітыкаў. Усе намаганні простага чалавека зараз накіраваны на тое, каб здабыць грошы. На забеспячэнне ж духоўных патрэб звычайна не застаецца ні сіл, ні часу. А ўрад, здаецца, зусім махнуў рукой на развіццё духоўнай культуры народа.

Але, як агеньчык у цемры, успыхвае шчырае жаданне паспрыяць адраджэнню Беларусі. Асабліва прыемна, калі гэта жаданне з'яўляецца ў іншаземцаў.

Вось ужо два гады ў Пінску жыве манашка з Польшчы, сястра Хрысціна. За гэты час яна зрабіла шмат добрага для нашай зямлі. Пачала, у прыватнасці, перакладаць песні для ўрачыстых набажэнстваў на беларускую мову. Дзякуючы яе намаганням дзіцячы хор з Пінска заняў першае месца на фестывалі «Магутны Божа» ў Магілёве. Цяпер у яе з'явілася падмога. Месяц назад у Пінск прыехаў ксёндз Тэафіл, які перад гэтым займаўся місіянерскай дзейнасцю у Бразіліі. Асвоіўшыся, ён пачаў самастойна вывучаць беларускую мову. На пытанне пра тое, чаму ён заняўся гэтым, ксёндз Тэафіл адказаў: «Я хачу, каб людзі разумелі мае казанні».

Зараз ксёндз Тэафіл разам з сястрой Хрысцінай рыхтуюцца да правядзення набажэнстваў на беларускай мове ў вёсках Пінскага раёна.

**Вольга САЛЕЙЧУК,**
**сябра рады пінскай суполкі ТБМ.**

## *ПАРЫЖ, ПАРЫЖ...*

Прачыталі мы ў заходнебеларускім часопісе «Маланка» такія радкі:

*Прэч вясковыя звычаі —*
*Трэба моды пільнаваць!*

Ды вырашылі пакінуць звычайныя звычныя тэмы і пачаць пісаць пра Парыж.

ПАРЫЖ!!! Упершыню сёлета на старонках «Нашага слова»!!! Язэп Янушкевіч апавядае пра знаходкі ў парыжскіх бібліятэках і архівах, а таксама і пра Парыж, а Здзіслаў Сіцька спрабуе паліць Парыж...

Дарэчы, шаноўныя чытачы, як трэба пісаць: «Упершыню пра Парыж» ці «Упершыню аб Парыжу (аб Парыжы)»? Прышліце нам свае адказы — самы дасціпны надрукуем.

*Стар. 4—5.*

***УВАГА!***

Бацькоўскі гарадскі камітэт беларускамоўных школ і класаў г.Менска на чале са старшынёй Алесем Шамаком праводзіць актыўную работу па збору подпісаў грамадзян Беларусі ў падтрымку выкладання ў ВНУ рэспублікі на роднай, беларускай мове.

У сувязі з гэтым у «Народнай газеце» ад 26.10.1994 г. быў надрукаваны адкрыты ліст Прэзідэнту РБ Аляксандру Рыгоравічу Лукашэнку.

На гэты час ужо сабрана больш за 1000 подпісаў, палова з іх даслана на імя Прэзідэнта.

Бацькоўскі камітэт заклікае ўсіх грамадзян Беларусі, незалежна ад заняткаў і месца жыхарства, збіраць свае подпісы за беларускамоўныя ВНУ ў прыведзенай ніжэй форме і дасылаць па адрасе:

**220026, Менск, А/С-129**
**БСДГ, Бацькоўскаму камітэту.**

Нашы дзеці маюць права і павінны атрымліваць адукацыю на сваёй роднай мове!

**Бацькоўскі гарадскі камітэт беларускамоўных школ і класаў г.Менска.**

ПОДПІСЫ

пад адкрытым лістом Пр зідэнту Рэспублікі Беларусь А.Лукашэнку «Аб белару камоўным навучанні ў ВНУ Беларусі»

| № | Прозвішча, імя | Дзе вучацца дзеці ( кола, клас) або адрас ці месца учобы | подпіс |
|---|---|---|---|

***У ЯРМЕ, АБО «ДРАЎЛЯНЫ ХАМУТ».***
*Стар. 5.*

*У ГАЗЕТАХ*

## Не клапоціцца дзяржава — рупяцца свядомыя грамадзяне

Менская гарадская газета дэмакратычнага накірунку «Добры вечар» (№ 234) на сваёй першай паласе змясціла невялікі матэрыял Таццяны Лазоўскай «Не» — дыскрымінацыі», прысвечаны пікетаванню пасяджэння XV сесіі гарсавета бацькамі, чые дзеці вучацца ў беларускамоўных класах і школах сталіцы.

Паведамляецца, што згаданую акцыю арганізавалі сябры Рэспубліканскага бацькоўскага камітэта «За вольны выбар мовы навучання». Мэта пікетавання — прыцягнуць увагу грамадскасці да ненармальнага становішча нашай дзяржаўнай беларускай мовы, спыніць яе непрыхаваную дыскрымінацыю з боку вярхоўных улад Беларусі. Аўтар адзначае, што патрабаванні бацькоў не з'яўляюцца беспадстаўнымі. Апошнім часам распачаты адкрыты, шалёны наступ на беларушчыну, на нацыянальнае Адраджэнне. З боку так званага Славянскага сабору «Белая Русь», ліберальна-дэмакратычных і пракамуністычных партый вядзецца шырокая прапагандысцкая работа, накіраваная да байкатавання дзеючага Закона аб мовах. У газеце падкрэслена, што робіцца гэта з благаславення вярхоўных улад дзяржавы. Далей згадваецца, у прыватнасці, фрагмент з вядомага выступлення нашага Прэзідэнта, дзе ён абразліва выказаўся наконт беларускай мовы і людзей, якія карыстаюцца ёй.

Т.Лазоўская зўважае: у любой цывілізаванай краіне кіраўнік дзяржавы ніколі б не дазволіў сабе падобных вольнасцей, ведаючы, што за гэта давядзецца трымаць адказ перад народам. У нас — зусім іншая справа, уладныя структуры толькі падахвочваюць антыбеларускую хвалю. Таму ў абарону сваёй роднай і, падкрэслім, дзяржаўнай мовы рашуча выступілі ў сталіцы свядомыя беларусы. Рэпартаж аб пікетаванні абуранымі бацькамі гарвыканкама надрукавала таксама газета творчай інтэлігенцыі Беларусі «Літаратура і мастацтва» (№ 50).

## Пра гуманітарыяў зноў нічога канкрэтнага

Агульны сход Акадэміі: гэтай падзеі была прысвечана большасць матэрыялаў газеты «Навіны Акадэміі навук Беларусі» (№ 47). З іншых публікацый прыцягвае ўвагу падрыхтаваны ўрадам праект Дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь на 1995 год па фінансаванню навукі, які абмяркоўваўся на агульным сходзе. Дакументам, у прыватнасці, прадугледжана, што ніжняя мяжа затрат на навукова-даследчую дзейнасць сёлета павінна складаць 2,2 працэнта ад даходнай часткі бюджэту краіны. Выдзяленне гэтых сродкаў павінна забяспечыць распрацоўку 49 прагрэсіўных тэхналогій, вырабіць звыш 400 эксперыментальных і доследных узораў новай тэхнікі, каля 1[illegible] найменняў новых матэрыялаў, камплектуючых вырабаў, вузлоў і г.д. На жаль, у праекце не гаворыцца нічога канкрэтнага аб фінансаванні фундаментальных навуковых даследаванняў у галіне гуманітарных навук. Відаць, на згаданыя мэты выдзелены настолькі мізерныя сумы, што аўтары дакумента палічылі за лепшае не называць іх зусім.

М.В.

*РУПЛІЎЦЫ*

*Па ўсяму відаць, што праблема беларускай мовы, сёння дзяржаўнай, у нашым грамадстве яшчэ не вырашана. Як гэта ні парадаксальна. Вось і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка, ледзь прыйшоўшы да ўлады, — а прыйшоў ён да яе пад лозунгам «Барацьба з карупцыяй і навядзенне парадку», вельмі заклапочаны тым, каб як найхутчэй «паставіць на месца» беларускую мову, якая па нейчаму недагляду заняла дзяржаўны пасад, а ў сапраўднасці ўсім перашкаджае: моладзі вучыцца, навукоўцам — тварыць, а народу — гаварыць на той мове, на якой ён хоча (менавіта на расійскай), бо толькі «кучка нацыянал-радыкалаў», на думку Прэзідэнта, прызнае беларускую мову і прымушае на ёй размаўляць іншых. Такое гаварылася на сходзе ў Беларускім педагагічным універсітэце, на сесіі Гомельскага абласнога і гарадскога Саветаў і на сесіі агульнага сходу Акадэміі навук Беларусі. Думкі гэтыя агалошваюцца вельмі ўпэўнена, нібы ісціны ў апошняй інстанцыі, дадзеныя Богам, а не як збітыя, сцёртыя, набіўшыя за 70 гадоў савецкай улады аскоміну аргументы апанентаў беларускага адраджэння і ворагаў беларушчыны. Наш Прэзідэнт беларускай мовай не карыстаецца, і цяпер мы даведаліся чаму: «Таму што па-беларуску нельга выказаць нешта вялікае. Беларуская мова — бедная мова» («Свабода», № 46, 6—12 снежня). Працытуем радкі з выступлення Прэзідэнта ў Акадэміі навук: «И ещё, когда я говорил об информационном вакууме, который создаётся вокруг Академии, то остановился лишь на экономических факторах. Между тем, существуют и политические факторы. Один из них — язык, или правильнее будет сказать, языки науки. У нас есть закон, согласно которому государственным языком на территории республики является белорусский. Не выполнять закон нельзя. Но так уже сложилось исторически, что научное информационное пространство вокруг Академии остаётся русскоязычным. Международная практика показывает, что языками науки должны являться языки-гиганты. Белорусский к таким языкам, к сожалению, пока не относится. В то время как русский официально принят как один из международных языков науки. Учёные недоумевают, почему их заставляют публиковать научные работы на белорусском языке, поскольку потом, для того чтобы довести собственные труды до сведения своих зарубежных коллег, их приходится переводить или на русский, или на английский. Думаю, государство должно поддержать учёных в свободе выбора языка, на котором публикуются их научные труды, монографии, другая научная литература» (цытуецца па стэнаграме).*

*Узнікаюць пытанні: «Чаму гэта беларускія навукоўцы павінны для рускіх калег перакладаць свае працы, калі абедзве нашы мовы такія блізкія?»; «З якой пары «вялікі брат» перастаў нас разумець?»; «Ці знаёмы Прэзідэнт з навуковай літаратурай на беларускай мове?»; «Чаму гэта Аляксандру Лукашэнку так карціць захаваць рускамоўнай навуковую інфармацыйную прастору вакол АН?»; «Чаму мовай навукі павінны заставацца мовы-гіганты (на Беларусі, ведама ж, расійская)?» і г.д.*

*На гэтыя і іншыя пытанні адказвае акадэмік і віцэ-прэзідэнт АН РБ, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» Радзім Гаўрылавіч Гарэцкі.*

# Акадэмік Радзім ГАРЭЦКІ: «За абразу

**— Радзім Гаўрылавіч, калі па тэлебачанні ішла трансляцыя выступлення Прэзідэнта А.Лукашэнкі ў Акадэміі навук Беларусі, я бачыла Вас у кадры. Спярша Вы пляскалі ў далоні і ўсміхаліся, але потым раптам Вы спахмурнелі і больш не апладзіравалі.**

— Сапраўды я апладзіраваў Прэзідэнту, калі той з разуменнем справы гаварыў пра задачы нашай навукі і абяцаў дапамагчы Акадэміі выжыць. Але я быў абураны, калі пачуў ад яго абразлівае выказванне пра беларускую мову. І тут я не магу пагадзіцца з кіраўніком дзяржавы. Лічыць, што беларуская мова не можа быць мовай навукі — гэта нонсенс. Даводзіцца толькі пашкадаваць, што наш Прэзідэнт — можа, адзіны ў свеце кіраўнік дзяржавы — не карыстаецца дзяржаўнай мовай і ўсяляк яе зневажае і прыніжае, абражаючы тым чынам усю нацыю.

**— Аднак Аляксандр Рыгоравіч не стамляецца паўтараць, што ён — народны абраннік і наш Прэзідэнт «усур'ёз і надоўга».**

— І гэта не ідзе на карысць яго іміджу. А пакольні ён рызыкнуў усур'ёз разважаць аб якасцях і значэнні мовы, у дадзеным выпадку беларускай, — а аднаго такога «мовазнаўцы» мы ўжо ведалі, — то і адказваць яму трэба па ўсіх правілах, а менавіта аргументавана. Думаю, што гэта зробяць спецыялісты. Я ж паўтару агульнавядомае. Наша мова старажытная, магутная і адна з самых распрацаваных у свеце — не горшая за якую б там ні было. Узровень яе развіцця ў XVI стагоддзі прадстаўляе Статут Вялікага Княства Літоўскага, а ў XIX—XX стст. наша мастацкая літаратура, якую стварылі таленавітыя людзі і геніі — Дунін-Марцінкевіч, Багушэвіч, Багдановіч, Купала, Колас, выдатныя пісьменнікі савецкай Беларусі.

**— Але ж навуковая мова адрозніваецца ад мастацкай, калі мець на ўвазе сродкі перадачы паняццяў і адцягненых тэарэтычных думак.**

— Мова навукі, якая служыць для перадачы навуковых думак, з'яўляецца разнавіднасцю літаратурнай мовы. А калі на ёй пішуцца выдатныя мастацкія творы, то чаму на ёй нельга выказаць навуковыя меркаванні, скажам, гісторыку або мастацтвазнаўцу? Літаратурная мова як вышэйшая форма мовы нацыянальнай абслугоўвае ўсе сферы грамадскай дзейнасці, а не толькі мастацкую літаратуру, — і навуку, і прэсу, і навучальныя ўстановы, і мастацтва, і дзяржаўны апарат. Ва ўсякім разе ў нармальнай дзяржаве гэтыя функцыі яна выконвае.

**— Можна паставіць і такое пытанне: «У якой меры скарыстоўваецца беларуская літаратурная мова ў якасці навуковай на Беларусі?»**

— Шырока скарыстоўваецца! Паглядзіце, колькі зараз выдаецца на ёй усялякай навукова-папулярнай літаратуры! А прыгадаем нашы энцыклапедыі на нацыянальнай мове, у падрыхтоўцы якіх прымалі і прымаюць удзел дзеячы навукі, культуры, мастацтва, літаратуры, спецыялісты ў галіне народнай гаспадаркі. БелСЭ, наша першая універсальная, выйшла ў сямідзесятыя гады, за ёй з'явіліся наступныя: «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва» ў 5 тамах, «Энцыклапедыя прыроды Беларусі» ў 5 тамах, шматтомная «Энцыклапедыя гісторыі Беларусі», выданне якой яшчэ не завершана; «Энцыклапедыя беларускай мовы» (аднатомнік), «Энцыклапедыя сельскага гаспадара» (аднатомнік), «Энцыклапедычны даведнік «Янка Купала», «Сямейная энцыклапедыя», энцыклапедычны даведнік «Археалогія і нумізматыка» і іншыя. Зараз рыхтуецца другое выданне «Беларускай энцыклапедыі» ў 18 тамах.

**— Кажуць, што ў беларускай мове яшчэ недастаткова распрацавана навуковая тэрміналогія?**

— У асноўным навука карыстаецца тэрмінамі, запазычанымі з лацінскай і грэцкай моў. Адны і тыя ж тэрміны сустракаюцца ва ўсіх мовах. Возьмем тую ж геалогію: пішаш па-руску, пішаш па-беларуску, па-англійску, а тэрміны адны і тыя ж. Увогуле, сцвярджаць, што ў беларускай мове слаба распрацавана тэрміналогія, не даводзіцца. Наша тэрміналогія распрацоўваецца даўно і грунтоўна. Прыгадаем хаця б дзейнасць Інбелкульта ў дваццатыя гады, а затым Інстытута мовазнаўства Акадэміі. Акадэмік Сцяпан Некрашэвіч прысвяціў шэраг работ распрацоўцы навуковай тэрміналогіі ў даваенны час. У яго картатэцы налічвалася каля мільёна тэрмінаў. Далейшым штуршком у распрацоўцы тэрміналогіі і ўсялякіх удакладненняў у мове паслужыла выданне згаданых энцыклапедый. Шмат гадоў і шмат дзе працуюць тэрміналагічныя камісіі. Сотні спецыялістаў у асобных галінах навукі сумесна з мовазнаўцамі ўзяліся распрацоўваць навуковую тэрміналогію і рыхтаваць слоўнікі. Мне вядома, што і пры тэрміналагічнай камісіі ТБМ групуюцца навукоўцы — спецыялісты тэхнічных і прыродазнаўчых навук. Выйшла шмат спецыяльных слоўнікаў (па фізіцы, хіміі і інш.) Матэматыкі выдалі слоўнік па вышэйшай матэматыцы, прафесар М.Савіцкі — па камп'ютарнай і вылічальнай тэхніцы. Іншая справа, што сапраўды англійская мова, як раней грэцкая і лацінская, стала міжнароднай. Таму, я лічу, што цяпер нам патрэбна, друкуючы навуковыя працы на дзяржаўнай мове, рабіць падрабязнае рэзюме на англійскай.

**— А на расійскай?**

— На расійскай можна, але не абавязкова. Суседзі-славяне і так добра нас разумеюць.

**— Такая практыка праходзіць апрабацыю ў Акадэміі?**

— Скажу, як мы, геолагі, выдаём часопіс «Літасфера». Зыходным момантам для нас стала аксіёма: беларуская, расійская і англійская мовы раўнапраўныя і публікавацца можна на любой з іх. Калі хтосьці, скажам, апублікаваў артыкул на расійскай мове, то рэзюме да яго даецца на англійскай. Да артыкула на англійскай мове рэзюме пішацца на беларускай і расійскай. А да артыкула на беларускай мове рэзюме пішацца на англійскай і расійскай. Лічу, што праблема выбару «языка науки», як яе ставіць Прэзідэнт Лукашэнка, — надуманая.

**— Магчыма, гэта правакацыя з яго боку?**

— Магчыма, і правакацыя. Але я спадзяюся, што гэта ўсё ж не яго душа і сэрца так гаворацъ, што гэта яго нехта падстаўляе. Я на гэта спадзяюся, бо калі гэта не так, то сітуацыя складваецца вельмі дрэнная і не толькі для беларускага народа, але перш-наперш для самога кіраўніка дзяржавы.

**— А я ўпэўнена, што Прэзідэнта ніхто не падстаўляе, такая яго ўласная пазіцыя. Прыгадайце, як дэпутат Лукашэнка на сесіях Вярхоўнага Савета РБ перадражніваў вымаўленне сваіх беларускамоўных калег. Ужо тады насцярожвалі яго адносіны да беларускага слова. Цяжка прадбачыць, што будзе далей, а пакуль што ўжо «пасыпаліся» ў гарадскіх школах класы з беларускай мовай навучання.**

— Сапраўды ад першай асобы ў дзяржаве залежыць вельмі многае. Заўважце, калі Станіслаў Шушкевіч, а затым Мечыслаў Грыб размаўлялі па-беларуску, многія пачалі марудна, але паступова і спакойна выконваць Закон аб мовах. Калі ж першы Прэзідэнт РБ рускамоўны — сітуацыя змянілася хваляй адступлення ад Закона. Як не разумее Прэзідэнт (і яго акружэнне), што сваімі заявамі супраць дзяржаўнай беларускай мовы ён не толькі павялічвае гэтую хвалю на Беларусі, але распальвае міжнацыянальную варожасць, якая можа прывесці да вялікай бяды! Няўжо мала прыкладаў на іншых краінах СНД? Зараз чыноўнікі ўжо падстройваюцца пад новага лідэра і адкат ад Закона аб мовах, ад Канстытуцыі стаў відавочным.

**— І ў Акадэміі навук?**

— У Акадэміі ў адпаведнасці з Законам аб мовах быў выдадзены загад аб пераводзе справаводства на дзяржаўную мову і Прэзідыум атрымліваў справаздачы з навуковых інстытутаў менавіта на ёй. А зараз тыя, хто дрэнна да беларускай мовы ставіцца, звяртаюцца ў Прэзідыум і заяўляюць: паколькі Прэзідэнт А.Лукашэнка стаіць за свабоду ў выбары навуковай мовы, то ў далейшым мы будзем дасылаць

*РУПЛІЎЦЫ*

справаздачы на расійскай мове.

**— А Вы што на гэта адказваеце?**

— Адказваем, што ні ў якім разе так рабіць нельга, бо закон ёсць закон. Закон вышэй за Прэзідэнта, яму павінны падпарадкоўвацца ўсе — ад лабаранта да кіраўніка дзяржавы. Што было б, каб, скажам, Прэзідэнт Францыі парушыў дзяржаўны закон? Яго б адразу знялі з п'едэстала. А ў нас, атрымліваецца, гэта рабіць можна.

**— А народ сузірае і маўчыць?**

— Шмат гадоў народ адвучвалі ад роднай мовы, запалохвалі жупелам нацыяналізму. Тым не менш у сваёй масе ён мову падтрымлівае і гэта не кучка людзей. Аднойчы ў час тэлевізійнай перадачы, прысвечанай стану беларускай навукі, я назіраў, як студыю закідалі пытаннямі: чаму госці і яе вядучы гутараць па-расійску? Так што народ не маўчыць.

**— Ці не «Праспект» тады быў у эфіры?**

— Вы не адгадалі. Але з вядучым праграмы «Праспект» у мяне была сутычка.

**— З якой прычыны?**

— Аднойчы прыйшоў да мяне ў Акадэмію навук сімпатычны і разумны хлопец браць інтэрв'ю. Адрэкамендаваўся вядучым праграмы «Праспект». Я спытаў: «А на якой мове будзем размаўляць?» «На расійскай», — адказвае ён. «А чаму не на дзяржаўнай? Вы самі хто?» Адказвае мне спадар Шарамет па-расійску: маўляў, сам я беларус і вялікі прыхільнік Адраджэння, але паколькі нашай мовы хутка не будзе, наша нацыя ўсё роўна загіне, дык давайце гутарыць па-расійску.

**— Так і сказаў — «загіне»?**

— Так і сказаў: паколькі мова адамрэ, а нацыя загіне.

**— Сапраўды разумны хлопец: ведае, як выжыць самому, калі загіне нацыя.**

— Разумны, таленавіты чалавек, але страчаны для Беларусі сын. Лічу, што такім, як ён, не месца на тэлебачанні. «Праспект» павінен праводзіць нацыянальную ідэю ў жыццё, а не рассяваць атрутныя зерні нігілізму.

**— А Вы заўважылі: па радыё і тэлебачанні спрэс рускамоўныя ўсе перадачы — працэнтаў так на дзевяноста. І гэта страшна, бо газеты не ўсе чытаюць, а радыё і тэлевізар слухаюць і глядзяць усе.**

— У гэтым мне бачыцца здзек з праваў народа, калі патрыятызм не вырошчваецца, а забіваецца. Дрэннае становішча і ў прэсе. Рускамоўная і так званая жоўтая прэса ад імя імперскіх сіл вядзе агалцелы наступ на ўсё беларускае: і народ наш — не народ, і мова наша — не мова, і зямля наша — не наша. Усяляк ганьбіцца нацыянальная сімволіка і імкненне да незалежнасці. На жаль, і на дзяржаўным узроўні робіцца спробы прыпыніць дэмакратызацыю і беларусізацыю. Вось нават і камісія адпаведная створана пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета — быццам бы для вывучэння прапаноў грамадзян па пытаннях дзяржаўнай сімволікі — гэткі фігавы лісток, — а ў сапраўднасці, каб падрыхтаваць «законныя падставы» для яе адмены.

**— Карціць савецкім начальнікам, партыйным функцыянерам ды адстаўным афіцэрам пазбавіцца беларускасці. А на Вашу думку, Радзім Гаўрылавіч, як бараніцца ад гэтай варожай сілы?**

— Па-першае, трэба бараніць нацыянальную сімволіку ўсімі магчымымі сродкамі і метадамі. У свой час, калі яна прымалася, пытанне грунтоўна прапрацоўвалася ў Акадэміі. Шмат разоў рыхтаваліся і дасылаліся ва ўрад розныя звесткі і даведкі. Не так яна лёгка прымалася, як цяпер можа здацца. А за абразу сімволікі, што яна, маўляў, «фашысцкая», за мянушкі тыпу «лошадка» трэба строга караць — штрафаваць, а можа і судзіць.

**— А за абразу дзяржаўнай мовы?**

— Караць таксама. Гэта толькі ў нас дапускаецца беспакарана над ёй здзекавацца, а на вуліцах і ў памяшканнях вывешваць шыльды, аб'явы, лозунгі, іншыя тэксты на замежных мовах. Падругое, трэба вакол сябе ствараць беларускамоўнае асяроддзе, размаўляць з усімі па-беларуску, калі нават давядзецца цярпець агрэсіўныя выпады з боку дэнацыяналізаваных рускамоўных грамадзян. Жывеш на гэтай зямлі, сам беларус — размаўляй на сваёй мове. На жаль, мы не жывём у дэмакратычнай і незалежнай дзяржаве і ўлада наша старая і думае яна па-старому. Адсюль такая непавага да беларускіх суполак, да беларускага руху. Калі твая суполка украінская, польская, габрэйская, расійская — умомант табе дапамогуць, а калі беларуская — нічога не атрымаеш, бо ты «нацыяналіст», хоць паняцце гэтае раўназначна патрыятызму. Мы можам дайсці да Беларусі перш за ўсё праз адукацыю і выхаванне. Нашы дзеткі з маленства павінны расці патрыётамі. Менавіта Беларусі, а не суседніх дзяржаў. Што раблю я сам? Размаўляю па-беларуску, сачу ў Акадэміі за выкананнем Закона аб мовах, дамагаюся, каб наша газета «Навіны Акадэміі навук Беларусі» выходзіла на дзяржаўнай мове, падтрымліваю выданне часопісаў на беларускай мове па прыроданавучых навуках, па аграрных, па гуманітарных. Шмат што ўдаецца зрабіць і па лініі «Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», якое выдае для дыяспары спецыяльны бюлетэнь, падтрымлівае беларускія выданні і суполкі ў блізкім замежжы, цесна супрацоўнічае з беларусамі далёкага замежжа. У жніўні мы правялі Першы з'езд беларусаў краін Балтыі, на якім ішла гаворка аб захаванні культуры, мовы, гістарычнай памяці беларусаў. У блізкім замежжы жыве два мільёны чалавек і столькі ж жыве ў далёкім замежжы. Апошнія шмат у чым могуць дапамагчы метраполіі, паколькі ўплываюць на ўрады такіх краін, як Германія, Францыя, Канада, ЗША і іншыя, якія могуць падтрымаць нашу дзяржаву. Але гэта ўжо іншая тэма гаворкі. Лічу, што ў такой справе, як адраджэнне мовы, не пашкодзіць трошкі прымусу і дыпламатыі.

**— Радзім Гаўрылавіч, Вы, буйны вучоны і грамадскі дзеяч, ведама, шмат падарожнічаеце. Сустракаецеся з многімі людзьмі. Скажыце, а чым адрозніваюцца беларусы далёкага замежжа ад тутэйшых беларусаў?**

— Сваёй павагай да нацыянальнай сімволікі і да роднай мовы. Прывяду такі прыклад. Вось ужо многа дзесяткаў гадоў у дзень утварэння БНР, 25 сакавіка, у гарадах Канады і ЗША — Нью-Йорку, Вашынгтоне, Чыкага, Клііўлендзе, Таронта і іншых на будынках мэрыі вывешваюцца беларускія нацыянальныя сцягі, — вось чаго дабіліся беларусы на Захадзе. Пытання мовы ў іх таксама не існуе. І ў сям'і, і на зямляцкіх сустрэчах яны карыстаюцца роднай мовай і толькі ёю.

**— А як да тутэйшых беларусаў ставяцца на Захадзе?**

— Скажу, як ставяцца да такіх, як я, хто па асабістых навуковых або грамадскіх справах прыбывае туды з Беларусі. Калі яны бачаць у табе годнага прадстаўніка свайго народа, прыхільніка нацыянальнага адраджэння і дзяржаўнага суверэнітэту, то ставяцца да цябе з павагай. Калі ж ты з замашкамі «інтэрнацыяналіста» і былога партыйнага функцыянера, — ставяцца насцярожана, як да дачасніка. Важны паказчык — мова, на якой ты гаворыш. Нашы дзяржаўныя асобы, чыноўнікі, прадстаўнікі фірм і асацыяцый шмат губляюць, грэбуючы дзяржаўнай мовай і карыстаючыся расійскай у перамовах з прадстаўнікамі замежных структур і ўлад. Я асабіста са сваімі калегамі з Польшчы размаўляю па-беларуску, яны са мной — па-польску, і мы добра разумеем адзін другога.

Мая думка такая: мы можам адрадзіцца толькі пры ўмове комплекснага вырашэння ўсіх задач, адраджаючы адначасна дзяржаўнасць, эканоміку, духоўнасць. У цэнтры ўсяго павінна стаяць адраджэнне мовы.

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

# Беларусі трэба караць»

# *Павел КАРМУНІН:*
# «Пачуваю сябе беларусам»

***У мінулым годзе споўнілася 75 гадоў Паўлу Васільевічу Кармуніну — выдатнаму акцёру Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Трыццаць гадоў ён прысвяціў гэтаму тэатру. Сыграў больш за сто роляў у тэатры і больш за семдзесят у кіно, але і зараз не пачувае сябе пенсіянерам. Майстар згадзіўся адказаць на пытанні нашага карэспандэнта.***

**— Калі, Павел Васільевіч, бачым Вас на экране ці на сцэне, то ўзнікае поўнае ўражанне, што перад намі беларус. Але ж Вы родам, здаецца, аднекуль з Расіі?**

— Так. Нарадзіўся я ў вёсцы Вялікія Ключы, што ў Татарыі. Праз нейкі час мае бацькі пераехалі ў Васільева. Там вучыўся спачатку ў школе, потым у ФЗВ, працаваў на чыгуначным транспарце. Вельмі падабалася ўдзельнічаць у мастацкай самадзейнасці. Прыпамінаецца адзін неардынарны выпадак. У нашым самадзейным тэатры ставілі спектакль па п'есе Аляксандра Астроўскага «Навальніца». Мне даручылі замяніць ад-нага артыста, які паехаў у камандзіроўку. Спачатку адмаўляўся, а потым усё ж згадзіўся. Але рэпетыраваў мала. У час пастаноўкі спектакля ў зале пачуў смех. У выніку я выставіў акно і збег. Даў сабе слова, што больш на сцэне выступаць не буду. Але ж лёс склаўся інакш. У 1939 годзе прызваўся ў армію. Там ізноў давялося ўзяць удзел спачатку ў ротнай самадзейнасці, а потым у палкавой і брыгаднай. Так вось і трапіў у артысты.

**— А з чаго пачыналася Ваша беларускасць?**

— З 1950 года пачаў працаваць у Казанскім тэатры імя Качалава. Прысвяціў яму дванаццаць гадоў. І вось у 1963 годзе да нас прыехаў галоўны рэжысёр Беларускага дзяржаўнага тэатра імя Янкі Купалы Ліцвінаў. Ён падбіраў артыстаў для ўдзелу ў спектаклі па п'есе Андрэя Макаёнка «Лявоніха на арбіце». Мне была прапанавана роля Лявона. З ёй я справіўся. І ў выніку мне прапанавалі знiцца ў фільме па гэтай п'есе. Пасля Макаёнак мне прапанаваў канчаткова перайсці на працу ў купалаўскі тэатр. Я спачатку адмаўляўся. Баяўся, што не атрымаецца, паколькі я беларускай мовай не валодаў. Але ж ён мяне здолеў пераканаць.

**— Заўсёды прыемна чуць Ваша вымаўленне беларускага слова. Я маю на ўвазе эстэтыку вымаўлення. Слова ў Вас гучыць прыгожа, важка. Як Вы гэтага дамагліся?**

— Даводзілася шмат працаваць над вымаўленнем. У гэтым мне дапамагалі загадчык літаратурнай часткі тэатра спадар Гаўрук, а таксама мая жонка Раіса Парфенцьеўна. Вучыў ролі напамяць. Вядома, да карэнных беларусаў уважліва прыглядаўся — як сябе паводзяць, як размаўляюць. Так і далучыўся да беларускасці.

**— Вас, Павел Васільевіч, беларускія гледачы пазнаюць і прызнаюць за свайго. Вы адзін з грамадзян Беларусі, кім людзі ганарацца і на каго, дарэчы, спадзяюцца. Гэта адбываецца не толькі, калі Вы на сцэне. А ўсё ж: якім Вы адчуваеце сябе ў будзённым жыцці?**

— Пачуваю сябе беларусам. Мне вельмі падабаецца беларуская мова. Заўсёды імкнуўся, каб на сцэне яна гучала дасканала, прыгожа. Неяк у Маскве мяне запрасілі зняцца ў фільме «Чырвоная плошча» і прапанавалі сыграць «зачуханага» беларуса. Я абурыўся. У душы падняўся такі пратэст супраць гэтага, і я беларуса «зачуханым» не паказаў. Заўсёды ганарыўся беларускім народам.

**— Якія ролі Вам найбольш запомніліся?**

— Іліко ў спектаклі «Я, бабуля, Іліко і Ларыён». Цудоўны быў спектакль. Ролю Іліко сыграў рускі акцёр на беларускай мове з грузінскім акцэнтам. Гледачы ўспрынялі гэта ўхвальна. Атрымаўся, лічу, Максім у «Традыцыйным зборы», яшчэ бацька Ганны ў спектаклі па рамане Івана Мележа «Людзі на балоце». А ўвогуле кожная мая роля ляжыць на сэрцы.

**— Якія ў Вас захапленні?**

— Амаль ніякіх. Усё забірала праца акцёра. Здымкі на тэлебачанні, праца ў тэатры. Было нават так, што даводзілася адначасова здымацца ў трох фільмах у трох розных гарадах. Стараўся не прапусціць ні рэпетыцыі, ні спектакля. Заўсёды хваляваўся перад сустрэчай з гледачамі, асабліва ў тэатры. Бо ў тэатр людзі ідуць, як у храм.

**Распытвала Любоў БАРШЧЭЎСКАЯ.**

*СКАЗАНА*

## Народ — за родную мову

Нядаўна адзначыў сваё 85-годдзе знакаміты беларускі пісьменнік Максім Лужанін (Аляксандр Амвросьевіч Каратай), адзін з самых старэйшых нашых літаратараў, прызнаны Майстар мастацкага слова, аўтар шматлікіх арыгінальных кніг і кінасцэнарыяў. Новая, пакуль незавершаная кніга пісьменніка «Неспарадкаваная хата» яшчэ знаходзіцца на ягоным рабочым стале. Неўзабаве пасля юбілею гутарка з Максімам Лужаніным была змешчана ў гасцёўні «Народнай газеты» (№ 233). Сярод мудрых выказванняў Аляксандра Амвросьевіча нямала такіх, з якімі з цікавасцю азнаёміцца і чытачы «Нашага слова». Прапануем адно з іх.

Пісьменнік Алесь Марціновіч, які браў інтэрв'ю ў Максіма Лужаніна, адзначыў: «Выжываць сёння нам трэба ўсім разам. Выжываць як нацыя...» А шаноўны яго суразмоўца, цалкам пагадзіўшыся з гэтым, зрабіў наступнае разгорнутае ўдакладненне: трэба «аднаўляць і шчапляць страчаны смак работы. І выжываць, карыстаючыся сваёй мовай, шырачы нацыянальную культуру. Пра мову... Мова не можа застацца без догляду, пра яе трэба клопат штодня. Мова — гэта хлеб, добра спечаны, не ў гарачай і не ў халоднай печы, абскрэбены спадыспаду ад лісця ці мукі, ахалоджаны пад абрусам. Тады ўжо яго кроіць і смакуюць, ён не чарсцвее, а толькі смачнее пад канец тыдня. І не трэба выдумляць, што нібыта народ адмаўляецца ад мовы сам. Народ — за родную мову, і ні ў якім разе нельга замахвацца на яго гэтае права. Толькі беларуская мова павінна быць дзяржаўнай мовай».

**М.В.**

# У парыжскіх сховішчах

***Гутарка з Язэпам Янушкевічам, вядомым даследчыкам нашай літаратуры, аўтарам кніжак «Беларускі Дудар» і «У прадчуванні знаходак»***

*— Спадар Язэп, ты нядаўна вярнуўся з Парыжа. Чаго ездзіў?*

— Восенню 1993 года, працуючы ў архівах Варшавы, мне ўдалося натрапіць на звесткі, што ў сховішчах Парыжа захаваліся ладныя зборы беларускіх літаратараў. Летась я атрымаў стыпендыю ад Стыпендыяльнага фонду імя Станіслава Лема пры Польскім Гісторыка-Літаратурным Таварыстве, што месяцца ў Парыжы. На сродкі Фонду Сораса я і паехаў у Францыю.

У Парыжы я пераважна працаваў у Аддзеле рукапісаў Польскай бібліятэкі і ў фондах Музея імя Адама Міцкевіча. У бібліятэцы захоўваюцца лісты і ўспаміны ўдзельніка паўстання 1831 года, знакамітага этнографа, піянера беларускай і польскай фатаграфіі, паэта, педагога, гісторыка, мастака-графіка, літографа і кнігавыдаўца Аляксандра Рыпінскага. Уяўляеш, сем сшыткаў успамінаў пра паўстанне 1830—1831 гадоў, пераважна пра падзеі ў Віленскім, Дзісенскім, Браслаўскім паветах. Яны напісаны сябрамі Рыпінскага за прапановай малавядомага цяпер Таварыства Літоўскага і Земляў Рускіх (значыць, беларуска-украінскіх), якое ўзнікла ў Францыі пасля паражэння паўстання. Кіравалі Таварыствам нашы землякі Леанард Ходзька, Адам Міцкевіч, граф Адам Плятар, Яўхім Лелевель.

*— Што цябе найбольш уразіла ў гэтых успамінах?*

— Адзін з сшыткаў, які датаваны 1832 годам, падпісаны: «Аляксандр Рыпінскі, беларус». Гэта з'ява беспрэцэдэнтная ў гісторыі нашай літаратуры, першы, наколькі я ведаю, факт самаакрэслення нацыянальнасці прадстаўніком нашага народа. Да «Дудкі беларускай» Францішка Багушэвіча было яшчэ паўстагоддзя, і кніжка Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Дудар беларускі» з'явілася значна пазней, у 1857 годзе.

*— Ты пералічыў шмат сфер дзейнасці Аляксандра Рыпінскага. Ці ёсць гэтаму нейкае дакументаванае пацвярджэнне?*

— У згаданай бібліятэцы захоўваецца каля 20 кніжак Рыпінскага, выдадзеных ім ва ўласнай друкарні ў Лондане, пераважна ў 1850-я гады. Гэты збор сам па сабе вельмі каштоўны — у беларускіх бібліятэках няма і дзесятай часткі. Ды што казаць, нават Нацыянальная бібліятэка Францыі мае толькі адну яго кнігу — «Białorus» (1840 г.).

*— Спадзяюся, меў радасць і ад іншых знаходак?*

— На жаль, крыху расчараваў асабісты архіў Вайніслава-Казіміра Сулімы-Савіча-Заблоцкага. У зборы — больш за паўтысячы старонак — нічога на беларускай мове не трапілася. Рукапісы пераважна на польскай і французскай мовах. Дарэчы, ён быў асабістым сакратаром прэм'ер-міністра Францыі Луі Гамбеты (да 1882 года) і пакінуў пра яго каларытныя ўспаміны. Пасля маёй знаходкі ў Кракаве вельмі цікавага верша гэтага «чырвонага графа» (верш надрукаваны ў кнізе «У прадчуванні знаходак») я спадзяваўся новых доказаў паэтычнага таленту Савіча-Заблоцкага. Але значную цікавасць уяўляе і ягоная перапіска з Агатонам Гілерам, які ўпершыню надрукаваў «Лісты з-пад шыбеніцы» Кастуся Каліноўскага.

*— Відаць, шмат часу прыйшлося траціць на перапісванне тэкстаў?*

— Не. Я зрабіў некалькі соцень старонак ксеракопій дакументаў.

*— Толькі, мабыць, і сядзеў у бібліятэцы ды музеі?*

— У нядзелю яны зачыненыя... Пабываў і ў саборы Нотр-Дам, які побач з бібліятэкай, на могілках Пер-Лашэз, у Луўры нават двойчы, узнімаўся на Эйфелеву вежу...

*— Не баяўся заблудзіцца ў Парыжы?*

— Сапраўды, на парыжскіх вуліцах, як і скрозь, надпісы толькі на французскай мове, якой я не ведаю, але парыжане — зычлівыя людзі, і варта было толькі спыніцца і даўжэй пастаяць, разглядаючы мапу Парыжа, як хто-небудзь падыходзіў і пытаў па-ангельску, што трэба.

Я вельмі ўдзячны прафесару Лешаку Тальку, дырэктару Польскай бібліятэкі ў Парыжы, які не абмяжаваўся апекай нада мной толькі ў сценах сваёй установы. За ягонай дапамогай, а таксама супрацоўніка Беларускай амбасады ў Францыі спадара Юшкевіча, я наведаў Нацыянальны архіў і Нацыянальную бібліятэку Францыі, Бібліятэку Сарбоны. Я спадзяваўся, што па каталогах ды вопісах, якія звычайна падрыхтаваныя бібліятэкамі ці архівамі для ўнутранага карыстання, нават не ведаючы мовы, я змагу нешта адшукаць, пазычыўшы каталог на ноч. На жаль, там не было такіх выданняў.

*— Таму і сенсацыйных знаходак не меў?*

— Былі звычайныя, але цікавыя знаходкі. Прыкладам, гісторыка-этнаграфічны нарыс пра Навагарадчыну, складзены на пачатку XIX стагоддзя невядомым аўтарам — каля ста старонак, — дзе вельмі дэталёва апісана гісторыя, побыт, прырода. Лепшага апісання Навагарадчыны я не спатыкаў. Натрапіліся мне і невядомыя адозвы часоў паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, рукапіс манаграфіі па гісторыі ВКЛ Мікалая Акялевіча, сябра В.Дуніна-Марцінкевіча.

*— Ці сустракаўся з землякамі?*

— Так, з сябрам беларуска-французскага таварыства «Хаўрус» — мастаком Міхасём Навумовічам, які, хоць і сталага ўзросту — семдзесят гадоў яму, — выкладае анатомію ў мастацкай школе. Ён — аўтар бюста і помніка нашаму кампазітару Міколу Равенскаму, што пастаўлены ў бельгійскім горадзе Лювене. Там, дарэчы, пасля вайны ўтварыўся цэнтр маладой беларускай эміграцыі. Міхасю Навумовічу цяпер нават надалі званне доктара. Гэта сведчанне высокай ацэнкі ягонага таленту і ведаў.

*— Мяркую, што ты не абмінуў і рэдакцыю славутай «Культуры»?*

— У мяне з пратэкцыі прафесара Талька была сустрэча з яе рэдактарам, спадаром Ежы Гедройцам. Ад яго я даведаўся, што ён наш зямляк, нарадзіўся ў Менску. Гэта вельмі цікавы факт, бо ва ўсіх энцыклапедыях напісана іншае. Ежы Гедройц вымушаны быў запісаць месцам нараджэння Варшаву, бо баяўся дэпартацыі пасля заканчэння вайны. Ён чытае «Нашу Ніву» і «Свабоду», усцешылі яго нарысы Захара Шыбекі пра Менск, надрукаваныя ў «Голасе Радзімы».

*— Ці друкуе «Культура» што-небудзь пра Беларусь?*

— Я чытаў у адзінаццатым нумары прыхільную рэцэнзію Мечыслава Яцкевіча з Ольштына на кнігі перакладаў паэзіі Цыпрыяна Норвіда і Баляслава Лесьмана, зробленыя Алегам Мінкіным, а таксама эсэ гэтага рэцэнзента пра ягонае наведванне Навагарадчыны.

Спадар Гедройц, вельмі блізкі да эмігрантаў-дэмакратаў, разумее значэнне нашых земляў у гісторыі Польшчы, разумее, што Вялікае Княства Літоўскае не знікла бясследна пасля бандыцкіх перадзелаў Рэчы Паспалітай у канцы XVIII стагоддзя і што традыцыі, закладзеныя гэтай вялікай еўрапейскай дзяржавай, працягвалі жыць і ў XIX стагоддзі, у дзеях Міцкевіча, Манюшкі ды іншых нашых землякоў, уключаючы ксяндза Папялушку — дажылі і да 90-х гадоў нашага стагоддзя.

*— Як бачу, паездка была плённай.*

— Так, я задаволены. Назбіранага матэрыялу хопіць на два гады расчытвання. Праца ж гэтая часам цяжэйшая за пошук.

*— Успомніўся даўні жарт, а таму пытаю: ці зноў хочаш у Парыж?*

— Там ёсць што шукаць. Скажам, у Нацыянальным архіве я натрапіў на дакументы перыяду БНР. На жаль, не хапіла часу...

**Распытваў Здзіслаў СІЦЬКА.**

---

***«Наша слова» ўжо двойчы (№ 43, 27 кастрычніка 1992 года і № 52, 28 снежня 1993 года) пісала пра нашага земляка, грамадзяніна Канады і Польшчы графа Аляксандра Прушынскага, які паспрабаваў вылучыць уласную кандыдатуру на пасаду першага Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Большасць менскіх газет тады змясцілі крыху іранічныя матэрыялы пра незвычайныя да сенсацыйнасці ўчынкі і паводзіны графа, чые перадвыбарчыя агітацыйныя захады па сутнасці скончыліся безвынікова. Не стала тут выключэннем і «Наша слова». Але спадар Прушынскі з сапраўднай еўрапейскай пачцівасцю тым не менш выказаў пісьмовую падзяку рэдакцыі. Аб тым, што афіцыйная Беларусь сустрэла замежнага графа зусім не па-мацярынску, чытачы змаглі даведацца з другой публікацыі «Нашага слова».***

***Апошнім часам, не зважаючы на няўдачу, Аляксандр Прушынскі, здаецца, не збіраецца кідаць сваіх ранейшых намераў паспяхова ўпісацца ў сучаснае палітычнае жыццё сваёй Бацькаўшчыны. Асоба гэта, адзначым, адметная, неардынарная і па-свойму надзвычай цікавая. Таму, карыстаючыся зручным выпадкам, супрацоўнік газеты дамовіўся з ім аб сустрэчы для кароткай гутаркі.***

# *Аляксандр Прушынскі:*
# «Беларусь я ніколі не пакідаў»



Перш-наперш — сціслыя звесткі з біяграфіі нашага тытулаванага земляка.

Спадар Прушынскі нарадзіўся 4 траўня 1934 года ў маёнтку Рагозніца на Мастоўшчыне ў старадаўняй шляхецкай сям'і. Восенню 1939-га на вачах маленькага Аляксандра чырвонаармейцы бязвінна забілі ягонага дзеда. Ратуючыся ад бальшавікоў, якія лютавалі тады на «вызваленай» Беларусі, сям'я Прушынскіх эмігравала за мяжу. Сярэднюю адукацыю Аляксандр атрымаў у школах ЗША, Францыі, Галандыі, дзе яго бацька быў польскім паслом, вышэйшую — у Польшчы і Канадзе. Мае дыплом менеджэра-эканаміста. Да 1972 года ён працаваў кансультантам на розных польскіх прадпрыемствах. Затым выехаў у Канаду (г.Таронта), дзе выдаваў уплывовую эмігранцкую газету «Польскі экспрэс». У 1992 годзе спадар Прушынскі вярнуўся на сваю радзіму, дагэтуль амаль што стала жыве ў Менску, час ад часу наведваючы дачку і жонку, якія пакуль застаюцца ў суседняй Польшчы. Акрамя гэтай малодшай дачкі, у графа Прушынскага ёсць яшчэ двое дарослых дзяцей — сын і дачка (жывуць, адпаведна, у Канадзе і Польшчы).

**— Спадар Прушынскі, вельмі цікава даведацца: як у беларускім шляхецкім асяроддзі было прынята даўней звяртацца адзін да аднаго? А таксама як гэта робілі ў тых, у прыватнасці, выпадках, калі звярталіся да тытулаваных асоб?**

— Найбольш пашыранымі першымі словамі зваротаў заўжды заставаліся традыцыйныя формы — «Пані» і «Пан». Пры зваротах жа да людзей з тытуламі звычайна казалі «Ваша мосць», «Мосці-дабрадзею». Радзей звярталіся, называючы пасаду ці чын таго, з кім завязвалася размова, але словы «Пан», «Пані» заставаліся ўсё роўна: «Пан ляснічы», «Пан палкоўнік», «Пані дырэктар».

**— Сярод менскіх журналістаў хадзілі чуткі, што нашы ўлады нядаўна прымушалі Вас пакінуць Рэспубліку Беларусь. Што Вы наконт гэтага скажаце?**

— Гэта, сапраўды, мела месца і падкрэслю, што неаднойчы. Але, як бачыце, я зноў тут. А ўвогуле, мая душа і сэрца заўсёды належалі толькі Бацькаўшчыне, таму ў мяне ёсць маральнае права лічыць, што сваю родную Беларусь я ніколі не пакідаў!

**— Спадар Прушынскі, помніцца, што ў мінулых сваіх публічных выказваннях Вы не вельмі акцэнтавалі ўвагу на неабходнасці таго, каб у нашай краіне дзяржаўнай мовай была толькі беларуская. Цяпер, здаецца, Ваша пазіцыя істотна змянілася?**

— Я ніколі не выступаў супраць дзяржаўнасці роднага слова на Беларусі, бо з'ява гэта абсалютна натуральная і бясспрэчная. Па-ранейшаму я лічу толькі, што ажыццяўляць комплексную беларусізацыю грамадства трэба ўсебакова прадумана і ўзважана. Тут найлепшы шлях — стварыць паўсюдна ў дзяржаве такія ўмовы, каб самі людзі захацелі і адчулі патрэбу кожны дзень карыстацца сваёй роднай мовай... У свой час я зрабіў прапанову міністру культуры (ужо былому) Яўгену Вайтовічу заснаваць спецыяльнае выдавецтва, якое б займалася выпускам беларускамоўных, недарагіх кніг, што карыстаюцца нязменным, устойлівым попытам. Але адказу на гэта так і не дачакаўся.

**— Спадар Аляксандр, да якога сацыяльнага пласта Вы сябе адносіце ці, іншымі словамі, кім Вы сам сябе найперш лічыце: былым бізнесменам, які зараз жыве на рэнту, ці прадстаўніком так званага сярэдняга класа?**

— Бізнесменам сябе лічыць ніяк не магу, хоць і маю некалькі эканамічных праектаў для розных краін (для Беларусі, Германіі), адзін з якіх блізкі да рэалізацыі ў аўтамабільнай вытворчасці. А ўсё сваё свядомае жыццё я лічыў сябе беларускім шляхціцам, што, па вялікім рахунку, вядома, абавязвае мяне, як асобу, да вельмі многага ва ўласным стаўленні да роднай Бацькаўшчыны.

**— Як стала вядома, Вы па-ранейшаму не пакінулі надзею трапіць у асяроддзе палітычнага істэблішменту Беларусі. У такім разе на падтрымку якіх грамадскіх сіл Вы маеце галоўныя спадзяванні?**

— Перш за ўсё я ўскладаю свае надзеі на простых людзей, на звычайных грамадзян Беларусі, якім ужо з верхам хапіла жудасных вынікаў антычалавечых камуністычных эксперыментаў. Спадзяюся і на дапамогу Божую. Былы прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч пратрымаў мяне некалькі сутак за кратамі, зняволіў толькі за тое, што я зрабіў самастойную спробу заявіць аб сабе ў палітыцы, прапанаваўшы смелыя ўласныя праекты. Яны абяцаюць прыток на Беларусь значных валютных замежных інвестыцый, якія дапамогуць, урэшце, кожнаму грамадзяніну рэспублікі. Так што простыя людзі павінны мяне падтрымаць.

**— Пачаўся Новы год. Якім ён Вам бачыцца для Беларусі?**

— Хоць у святочны час не прынята рабіць малапрыемныя прагнозы, але куды горш пладзіць ружовыя ілюзіі. Бясспрэчна, што 1995 год стане для беларусаў няпростым выпрабаваннем. Таму, па-першае, што на шляху да рынкавых рэформ улады рэспублікі практычна нічога не робяць. У выніку незваротна губляецца час. Па-другое, аналагічную пазіцыю займае і Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які на вачах губляе сваю ранейшую папулярнасць. Зрэшты, мяркуйце самі. Калі спадар Лукашэнка стаў Прэзідэнтам, за амерыканскі долар давалі 2,7 тысячы (з улікам дэнамінацыі) беларускіх рублёў, а зараз — ужо больш за 10 тысяч. Адпаведна, выраслі і цэны літаральна на ўсё. Далейшыя каментарыі, відаць, не патрэбны.

**— Дзякую за гутарку, спадар Аляксандр. Усяго добрага Вам у гэтым годзе!**

**Гутарыў Мар'ян ВІЖ.**





*Генры СЛІЗАР*

# КАНДЫДАТ

***Апавяданне***

Сапраўдная цана чалавека вымяраецца калібрам яго ворагаў. Прачытаўшы гэтую фразу, Бертан Гранзер апусціў на калені купленую надоечы ў кіёску кніжку ў папяровай вокладцы — нейчую біяграфію — і задуменна паглядзеў у цёмнае акно электрычкі. Густая цемрадзь ператварыла шкло ў люстэрка, і ён не ўбачыў нічога, акрамя ўласнага адлюстравання, але зараз яно як найлепей адпавядала ходу ягоных думак. Цікава, колькі ворагаў у гэтага твару, у гэтых прыжмураных, крыху касаватых блізарукіх вачэй, якім з ганарыстасці адмоўлена ў акулярах, у гэтага носа, які ён пра сябе называў арыстакратычным, у гэтага рота, мяккага, калі расслаблены, але жорсткага, калі ажыўлены прамаўленнем, усмешкай ці пагардай? Дык колькі ж ворагаў? Цікавае пытанне. Некалькі імёнаў прыйшло яму ў голаў адразу, падумаўшы крыху, можна прыбавіць яшчэ таго-сяго. Але справа не ў колькасці, калібр — вось што істотна. Уайтмэн Хэйес, да прыкладу, — вось гэта апанент, пацягне на ўсе дваццаць чатыры караты. Усміхнуўшыся, Гранзер зыркнуў на суседа па лаўцы, быццам спалохаўся, што той здолее прачытаць ягоныя таемныя думкі. Гранзеру было трыццаць чатыры гады, Хэйесу ж, чые сівыя валасы знаходзіліся ў прамой прапорцыі з ягоным жыццёвым вопытам, — у два разы болей. Такім ворагам можна ганарыцца. Гандлёвы бізнес ён ведаў як мае быць: шэсць гадоў гандляваў з латка, потым дзесяць год быў маклерам, потым дваццаць — агентам адной з фірм, толькі пасля гэтага бос узяў яго на службу ў кампанію і зрабіў сваёй правай рукой. Пакласці Хэйеса на лапаткі было не проста — тым большае задавальненне Гранзер атрымліваў ад маленькіх, але апошнім часам амаль рэгулярных перамог. Так, яму было з чым сябе павіншаваць. Яму ўдавалася пераўтвараць добрыя якасці Хэйеса ў ягоныя недахопы, праводзіць знак падабенства паміж ягоным шматгадовым вопытам і старэчай трухлявасцю, немагчымасцю прыносіць дастатковай карысці. На пасяджэннях Гранзер заўсёды засяроджваў увагу на новых умовах гандлю ў вялікім горадзе, каб бос зразумеў — час мяняецца, мінулае адмірае, патрабуецца новая камерцыйная тактыка, а правесці яе ў жыццё здольныя толькі маладыя людзі.

Раптоўна настрой у яго сапсаваўся. Якая радасць ад гэтых перамог? Так, пара дробных сутычак у канферэнц-зале кампаніі ён выйграў, ружовыя шчокі Хэйеса станавіліся пунсовымі, а пасечаная бы пергамент скура на твары боса моршчылася ў хітрай ухмылцы. Але чаго ён гэтым дамогся? Хэйес адчуваў сябе ўпэўненей, а бос яшчэ болей прыслухоўваўся да ягоных парад.

У гэты дзень Гранзер прыйшоў дадому крыху пазней звычайнага, але ягоная жонка Джын не задавала пытанняў. За восем гадоў бяздзетнага суіснавання яна вывучыла ўсе звычкі мужа і зараз разумна сустрэла яго спакойным прывітаннем, гарачым абедам і поштай за дзень. Хутка праліснуўшы рахункі і рэкламныя праспекты, Гранзер заўважыў пісьмо без зваротнага адрасу. Сунуўшы яго ў заднюю кішэню штаноў, каб не чытаць у прысутнасці жонкі, ён у маўчанні скончыў трапезу.

Увечары Джын прапанавала схадзіць у кіно і Гранзер згадзіўся — баевікі былі ягоным ціхім захапленнем. Але перад уходам ён, зачыніўшыся ў ванным пакоі, распячатаў пісьмо. Грыф выглядаў таямніча: «Таварыства аб'яднанага ўздзеяння». Замест зваротнага адрасу быў указаны проста нумар паштовай скрыні. У пісьме гаварылася наступнае:

«Паважаны містэр Гранзер!

Вас нам парэкамендаваў адзін агульны знаёмы. Задача, якую ставіць перад сабой наша арганізацыя, крыху незвычайная, і апісаць яе ў гэтым пісьме не ўяўляецца магчымым, але мы спадзяёмся, што Вам яна можа здацца надзвычай цікавай. Мы з вялікім задавальненнем сустрэнемся з Вамі дзеля асабістай гутаркі ў бліжэйшы зручны для Вас час. Калі на працягу трох дзён Ваша прапанова аб сустрэчы не будзе намі атрымана, я вазьму на сябе смеласць патэлефанаваць Вам на службу».

Далей ішоў подпіс: Карл Такер, сакратар. Унізе старонкі вузенькай лініяй было напісана: арганізацыя не камерцыйная.

Першай рэакцыяй была падазронасць — гэта прыхаваныя напады на ягоны кашалёк. Але потым узяла верх цікаўнасць. Ён падняўся ў спальню і пачаў гартаць тэлефонную кнігу, аднак арганізацыі з указанай на лісце назвай не знайшоў. Што ж, містэр Гранзер, усміхнуўся ён, давядзецца клюнуць на гэтую вуду.

У наступныя тры дні ніхто не патэлефанаваў, і цікаўнасць Гранзера яшчэ болей узрасла. Аднак у пятніцу яго з галавою захліснулі справы і думаць пра пісьмо проста не было калі. Бос сабраў нараду па рабоце хлебапякарных вырабаў. За сталом для пасяджэнняў Гранзер сеў насупраць Уайтмэна Хэйеса, гатовы зрэзаць яго за любую дапушчаную памылку. Адзін раз гэта яму амаль удалося, але Энкхард, дырэктар аддзела хлебапякарных вырабаў, падтрымаў пункт гледжання Хэйеса. Энкхард працаваў у кампаніі усяго толькі з год, але, відаць, паспеў ужо выбраць сабе саюзнікаў. Кінуўшы на яго гнеўны позірк, Гранзер у думках занёс Энкхарда ў спіс ненавісных яму людзей.

У тры гадзіны пазваніў Карл Такер.

— Містэр Гранзер? — Голас дружалюбны, нават вясёлы. — Ніякага паведамлення я ад вас не атрымаў, таму, мяркую, вы не маеце нічога супраць майго званка? Мы можам у бліжэйшы час сустрэцца?

— Някепска б даведацца, містэр Такер, пра што пойдзе гаворка...

Такер гучна прышчоўкнуў языком.

— Калі ў вас узнікла падазронасць, што мы — дабрачынная арганізацыя, можаце супакоіцца. Гэта не так. І мы нічога не прадаём. Мы, калі можна так сказаць, група добраахвотнікаў. Але сяброў у нас зараз больш за тысячу чалавек.

— Шчыра кажучы, — нахмурыўся Гранзер, — я пра ваша таварыства ніколі не чуў.

— Зразумела. Гэта адзін з нашых плюсаў. Упэўнены, вы ўсё зразумееце, калі я раскажу пра нас падрабязней. Калі вы не супраць сустрэцца сёння, я буду ў вашым кабінеце праз пятнаццаць мінут.

Гранзер зірнуў на каляндар.

— Добра, містэр Такер. Зараз для мяне самы зручны час.

— Цудоўна. Зараз буду.

Такер з'явіўся хутка. У правай руцэ ён трымаў даволі шыкоўны партфель, ад выгляду якога ў Гранзера ўзнікла смутнае адчуванне трывогі. Але калі гэты шасцідзесяцігадовы чырванашчокі чалавек з дробнымі прыемнымі рысамі твару загаварыў, Гранзер адчуў сябе больш упэўнена.

— Дзякую, містэр Гранзер, што знайшлі час для сустрэчы. Паверце, я зусім не збіраюся прапаноўваць вам застрахавацца ці купіць лёзы. Раней я сапраўды працаваў маклерам, але зараз амаль адышоў ад бізнесу, так што, нават каб захацеў, я ўсё роўна нічога не змог бы вам прадаць. Прадмет, які я хачу з вамі абмеркаваць, мае даволі інтымны характар, таму я загадзя хачу звярнуцца да вас з адной просьбай. Магу я зачыніць дзверы?

— Безумоўна, — прамовіў Гранзер, крыху заінтрыгаваны.

Такер зачыніў дзверы, падсунуў крэсла і загаварыў:

— Просьба вось якая: тое, што я вам зараз скажу, павінна застацца ў строгай тайне. Калі вы гэтую тайну абнародуеце ці раскрыеце наша таварыства нейкім іншым шляхам, наступствы могуць быць самыя непрыемныя. Прымаецца?

Насупіўшыся, Гранзер кіўнуў.

— Цудоўна! — шчоўкнуўшы замком партфеля, наведвальнік выцягнуў з яго нейкі збрашураваны манускрыпт. — Такім чынам таварыства падрыхтавала невялічкі праспекцік пра нашы асноўныя філасофскія ідэі, але стамляць вас чытаннем гэтага дакумента я не збіраюся, лепей пяройдзем непасрэдна да тэмы нашай размовы. Магчыма, вы наогул не прымаеце наш першы прынцып, і я хачу даведацца пра гэта адразу.

— Першы прынцып? Які менавіта?

— Ну... — Такер злёгку пачырванеў. — Груба кажучы, містэр Гранзер, Таварыства аб'яднанага ўздзеяння лічыць, што ёсць людзі, якія... проста не павінны жыць. — Ён зыркнуў на Гранзера, нібы жадаючы зафіксіраваць рэакцыю суразмоўцы. — Ну, вось я і сказаў, — засмяяўся ён з яўнай палёгкаю. — Той-сёй з сяброў нашай арганізацыі не верыць у правільнасць майго метаду — у адкрытую. Яны лічаць, што сутнасць прадмета павінна быць раскрытая ў больш завуаліраванай форме. Але я, па праўдзе кажучы, дасягнуў выдатных вынікаў, дзейнічаючы менавіта так, наўпрост. Што вы думаеце адносна сказанага, містэр Гранзер?

— Не ведаю. Я ўвогуле ніколі пра гэта не думаў. — Гранзер пацёр падбародззе. — Ва ўсякім разе, смяротны прысуд я прызнаю цалкам і поўнасцю. Забойцы, гвалтаўнікі, вырадкі, чорт пабяры, так, я безумоўна лічу, што яны не павінны жыць.

— Зразумела, — прамовіў Такер. — Значыць, вы падзяляеце наш першы прынцып. Справа толькі ў тым, на якія катэгорыі людзей яго распаўсюдзіць, правільна?

— Ну, можна сказаць і так.

— Добра. Тады паспрабую задаць у лоб другое пытанне. Вы — асабіста вы — жадалі б калі-небудзь і каму-небудзь смерці? Я тут не кажу пра мімалётныя, мінучыя пажаданні, якія ўзнікаюць іншым разам у кожнага. Я кажу пра сапраўднае, глыбокае жаданне смерці чалавеку, які, як вам здаецца, не павінен жыць. Узнікала ў вас такое жаданне?

— Безумоўна, — прызнаўся Гранзер. — Вядома, узнікала.

— На вашу думку, магчымыя сітуацыі, калі ліквідацыя каго-небудзь можа аказацца карыснай?

— Паслухайце, што за пытанні вы задаеце? — Гранзер усміхнуўся. — Ці вы прадстаўнік карпарацыі забойцаў?

Такер расплыўся ва ўсмешцы ў адказ.

— Ды што вы, містэр Гранзер, што вы. Наша практычная дзейнасць абсалютна не ўтрымлівае ў сабе крымінальнага пачатку. Не спрачаюся, таварыства наша тайнае, але гэта ніяк не шайка бандытаў. Вас уразіць якасны састаў нашай арганізацыі. Дарэчы, у ёй састаіць багата юрыстаў. Аднак, мяркую, пара вам расказаць, як было заснавана наша таварыства.

Заснавалі яго два чалавекі, чые імёны я не магу вам зараз назваць. Адзін з іх працаваў адвакатам у акружной пракуратуры, другі быў псіхіятрам. Абодвум давялося браць удзел у сенсацыйным, можна сказаць, працэсе — мужчына абвінавачваўся ў звярыным злачынстве супраць двух маленькіх хлопчыкаў. У нашых сяброў не было аніякага сумніву ў вінаватасці абвінавачваемага, але бліскуча праведзеная адвакацкая абарона плюс чамусьці выключная мяккасць прысяжных зрабілі немагчымае — злачынца быў апраўданы. Калі абвясцілі рашэнне суддзяў, гэтых двух — а яны былі не толькі калегамі, а і сябрамі — нібы громам ударыла. Яны адчувалі, што зроблена абуральная несправядлівасць, але не мелі сілы нешта зрабіць...

Тут я павінен падрабязней пра гэтага псіхіятра сказаць. На працягу некалькіх гадоў ён займаўся даследаваннямі ў галіне, якую можна назваць антрапалагічнай псіхіятрыяй. Частка яго працы была звязана з практыкай шаманства ў шэрагу этнічных груп, у прыватнасці, на Гаіці. Вы, мяркую, шмат чулі пра шаманства, альбо абеа, як яго называюць на Ямайцы. Не буду доўга пра гэта — інакш вы падумаеце, што мы ў сябе ў таварыстве займаемся дзікунскімі рытуаламі і ўтыркаем шпількі ў лялек... Дык вось, найбольш цікавым пунктам яго даследавання быў злавесна стабільны поспех аднаго дзіўнага дзеяння. Наш псіхіятр — чалавек вучоны, і спасылка на звышнатуральныя нейкія сілы яго, зразумела, не задавальняла. Ён шукаў гэтаму дзеянню рацыянальнае тлумачэнне і знайшоў адзіны і, безумоўна, правільны адказ. Сутнасць дзеяння вось у чым: калі шаман, маючы справу з тым, хто пераступіў закон, абвяшчаў сваю волю, — ці гэта простае пакаранне, ці смяротны прысуд — пажаданне ягонае непазбежна вяршылася. І адбывалася гэта вось чаму:. той, хто пераступіў закон, ні на імгненне не сумняваўся ў выканальнасці выраку, бо свята верыў у магічную сілу шаманства. Іншым разам працэс адбываўся арганічна — цела пакаранага рэагавала на праклён шамана псіхаматычна, і чалавек пачынаў хварэць і паміраў. Іншым разам ён паміраў ад «няшчаснага выпадку», але ў аснове такога няшчаснага выпадку заўсёды ляжала тайнае пераканане, што, калі ён пракляты, то абавязкова памрэ. Жудасна?

— Крыху ёсць, — прамовіў Гранзер перасохлымі губамі.

— Карацей кажучы, наш псіхіятр задаў сабе пытанне: ці так ужо далёка мы адышлі па сцяжыне цывілізацыі, што не можам падвяргацца такому вось «намоўленаму» пакаранню? І ён прапанаваў свайму другу-адвакату правесці эксперымент на злачынцы, пра якога я сказаў вышэй, каб пераканацца, ці магчымае такое пакаранне ці не.

— Тэхнічна гэта выглядала досыць проста, — працягваў Такер. — Яны сустрэліся з гэтым чалавекам і сказалі яму пра свой намер. Яны растлумачылі, як і чаму іхняе пажаданне абавязкова здзейсніцца. І хоць ён смяяўся над іх словамі, у ягоных вачах яны прачыталі рэлігійны страх. Яны пакляліся яму ў тым, што рэгулярна, кожны дзень, абавязваюцца жадаць яму смерці, і так будзе працягвацца да таго часу, пакуль ён больш не зможа супрацьстаяць няўмольнай містычнай сіле.

Гранзер нечакана для сябе перасмыкнуўся і сціснуў кулакі.

— Абсалютная лухта, — сказаў ён спакойна.

— Праз два месяцы той чалавек памёр ад сардэчнага прыпадку.

— Я ведаў, што вы гэта скажаце, але бываюць супадзенні.

— Само сабою. І нашы сябры былі не столькі задаволеныя, колькі заінтрыгаваныя. Таму яны паспрабавалі яшчэ раз.

— Яшчэ раз?

— Так. Няма патрэбы ўспамінаць, хто стаў ахвяраю іх наступнага доследу, скажу толькі, што на гэты раз яны скарысталі паслугі чатырох аднадумцаў. Гэтая групка піянераў і стала ядром таварыства, якое я ў дадзены момант прадстаўляю.

Гранзер сумніўна паківаў галавою.

— І вы хочаце пераканаць мяне, што гэтае таварыства налічвае тысячу чалавек?

— Так, нават болей. Сябры нашага таварыства жывуць ва ўсіх кутках краіны, таварыства, адзіная функцыя якога — жадаць людзям смерці. Напачатку членства мела стыхійны характар, цяпер у нас існуе дакладная сістэма. Той, хто жадае стаць сябрам Таварыства аб'яднанага ўздзеяння, для ўступлення абавязаны прапанаваць адну патэнцыяльную ахвяру. Само сабой, таварыства робіць даведкі і вырашае, ці заслугоўвае ахвяра такога лёсу. Калі ахвяра выбрана правільна, усе члены таварыства пачынаюць жадаць гэтаму чалавеку смерці. Калі акцыя паспяхова выканана, новы сябра лічыцца прынятым і павінен у будучым удзельнічаць у сумесным уздзеянні. Гэта ўсё, што патрабуецца дзеля ўступу ў таварыства, ды яшчэ невялічкі штогадовы ўзнос.

Такер усміхнуўся.

— Калі вы сумняваецеся ў сур'ёзнасці сказанага мною, містэр Гранзер... — Ён зноў нырнуў у партфель і на гэты раз выцягнуў адтуль тоўсты том у блакітнай вокладцы. — Тут выкладзены факты. На сённяшні дзень наш селекцыйны камітэт адабраў дзвесце дваццаць дзевяць ахвяр. З іх сто чатыры ўжо перайшлі ў іншы свет. Супадзенне, містэр Гранзер?

— Канешне, — працягваў Такер, — сто дваццаць пяць пакуль яшчэ жывыя, але гэта сведчыць толькі пра тое, што наш метад не зусім дасканалы. Мы першыя прызнаём гэта, а таму пастаянна ўдасканальваем, развіваем тэхніку ўздзеяння, таму, адважуся вас запэўніць, містэр Гранзер, іх усіх чакае аднолькавы лёс.

Ён пагартаў старонкі сваёй блакітнай кнігі.

— У гэтай кнізе зарэгістраваны ўсе сябры нашай арганізацыі. Вы, містэр Гранзер, можаце патэлефанаваць любому з іх, дзесяці, сотні, як вам захочацца. Патэлефануйце і самі пераканайцеся ў тым, што я кажу праўду. — Ён кінуў кнігу Гранзеру на стол. Яна грузна пляснулася побач з ягоным блакнотам. Гранзер узяў яе ў рукі.

— Ну? — спытаў Такер. — Будзеце тэлефанаваць?

— Не. — Ён аблізнуў губы. — Я вазьму вашыя словы, містэр Такер, напавер. Варта толькі ўявіць сабе, што тысяча чалавек жадаюць табе смерці, — і душа сама выскачыць з цела да ўсіх чарцей. — Вочы яго звузіліся. — Усё ж ёсць адно «але». Вы ўпамянулі «невялікі» ўзнос...

— Ён састаўляе пяцьдзесят долараў, містэр Гранзер.

— Пяцьдзесят, во як? Пяцьдзесят памножыць на тысячу, атрымліваецца зусім няблага, так?

— Запэўніваю вас, у арганізацыі няма ніякіх камерцыйных мэт. Па меншай меры тых, на якія вы намякаеце. Узносы ідуць выключна на аплату выдаткаў, працы камітэта, даследаванняў і таму падобнае. Гэта цалкам натуральна.

— Сапраўды, — неахвотна прабурчэў Гранзер.

— Значыць, усё ж зацікавіліся?

Гранзер крутануўся ў сваім крэсле і ўтаропіў позірк у акно. Чорт вазьмі! Чорт вазьмі! А калі сапраўды ўсё так і ёсць? Але ж хіба гэта магчыма? Калі б пажаданні здзяйсняліся, колькі непрыемных яму людзей ужо пакінулі б гэты свет! Але не, тут зусім іншая справа. Яго пажаданні заўсёды былі таемнымі, глыбока схаванымі ад людзей, пра іх ніхто не падазраваў. Гэты ж метад меў пад сабой зусім іншы грунт, куды больш рэальны, куды больш грозны. Так, цяпер яму зразумела, як гэты метад дзейнічае. Гранзер уявіў, як тысяча розумаў загараецца адзіным жаданнем смерці, убачыў ахвяру, што напачатку шчэрыць зубы ў іранічнай усмешцы, затым павольна, паступова, няўхільна паддаецца неадступнаму страху: а раптам метад сапраўды можа ўздзейнічаць, раптам такая маса смяротнаснай думкі сапраўды здольная вылучаць містычную, злавесную энергію, якая знішчае жыццё?

Нечакана перад ягонымі вачыма, быццам прывід, узнік пунсовы твар Уайтмэна Хэйеса.

Ён крутануўся ў крэсле і прамовіў.

— Але ж чалавек, выбраны ахвярай, канешне, павінен аб усім гэтым ведаць? Ён павінен усведамляць: таварыства існуе, яно дасягнула такіх вось вынікаў, і што зараз яно жадае яму смерці. Гэта ж істотна, праўда?

— Вельмі істотна, — пацвердзіў Такер, складваючы свае манускрыпты зноў у партфель. — Вы закранулі самае галоўнае пытанне, містэр Гранзер. Ахвяра павінна падрабязна аб усім даведацца, менавіта гэта і было мэтаю майго візіту да вас. — Ён зірнуў на гадзіннік. — Сёння апоўдні таварыства прыступіла да работы. Яно жадае вам смерці. Прашу прабачыць.

У дзвярах ён павярнуўся, узняў у развітальным жэсце капялюш і партфель.

— Да пабачэння, містэр Гранзер, — сказаў ён вельмі ветліва.

**Пераклад з англійскай.**

